**№№183–184 (3722–3723)**

23 лістапада 2012 г.

Выдаецца з ліпеня 1995 г. на беларускай і рускай мовах

Выдавец: УП «Народная Воля». Кошт — свабодны.

www.nv-online.info

# Народная Воля


*На простор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*

*Якуб КОЛАС*

**Да ўвагі!**

*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

ВИЗИТ

## Барин приехал

*Глава “Газпрома” Алексей Миллер в четверг прилетел в Минск. Формально — принять участие в церемонии открытия новой компрессорной станции, которая будет обеспечивать столицу “голубым топливом”. Однако визит начался со встречи с Александром Лукашенко и обсуждения проектов, которые “Газпром” готов реализовывать в Беларуси.*

*Что это за проекты? С чем приехал Миллер?*

### Строительство грандиозного офиса

“Газпром” планирует объединить под одной крышей, на одной площадке свои предприятия в Беларуси. В частности, мы сегодня говорим, что может быть построен очень большой современный многофункциональный деловой офисный комплекс”, — сообщил Алексей Миллер журналистам. По его словам, “Газпром” мог бы уже начать организацию соответствующих процедур вместе с Минским горисполкомом, мероприятий по разработке архитектурной концепции такого комплекса.

### Где офисы — там дороги и вокзалы

Также глава “Газпрома” проинформировал: “В сотрудничестве с Мингорисполкомом мы будем финансировать строительство развязки на проспекте Независимости”. Кроме того, А.Миллер обратил внимание на вопросы, касающиеся автовокзала “Московский” и его реконструкции. “Я хотел бы отметить, что “Газпром” готов инвестировать значительные средства в строительство этого комплекса”, — заявил он.

“Не буду говорить о порядке цифр, но он очень большой”, — добавил А.Миллер.

Глава “Газпрома” также сообщил о достигнутых с белорусской стороной договоренностях о том, что “Газпром” будет финансировать также строительство многоквартирного дома для многодетных семей.

### Зачем “Газпрому” МАЗ и КамАЗ?

Руководитель “Газпрома” предложил пока не созданному холдингу “Росбелавто”, который должен быть создан на базе МАЗа и КамАЗа, совместно выпускать автомобили на газомоторном топливе. Миллер считает это перспективным направлением развития сотрудничества России и Беларуси. Он сообщил журналистам, что проект полностью поддержал президент Беларуси Александр Лукашенко, поэтому в ближайшее время будет выработана совместная программа действий в этом направлении. Предполагается, что российская сторона будет поставлять газ, а белорусская — обеспечивать потребление газомоторного топлива.

Пока из официальных сообщений о визите главы “Газпрома” в Минск можно понять только то, что приехал добрый барин и выразил готовность швыряться деньгами. Однако вряд ли это соответствует действительности. Одним словом, нам активно рассказывают про то, какой сыр предлагает нам российская сторона. А вот где мышеловка?

**Олег СНОВ.**

БЛИЦ

*Выступая неделю назад на пленарном заседании Консультативного совета по иностранным инвестициям при правительстве Беларуси, министр экономики Николай Снопков заявил о возможном предоставлении инвесторам земельных участков в частную собственность. Вопрос, как говорится, конституционный. До сих пор земля у нас иностранцам не продавалась.*

*Учитывая архиважность проблемы, “Народная Воля” решила вынести ее на публичное обсуждение. Первый блиц-опрос сформулировали так:*

## В 2013 году предлагается решить вопрос предоставления инвесторам земельных участков в частную собственность. Вы согласны с этим?

**Вадим ИОСУБ, финансовый аналитик официального партнера Alpari в Минске:**

— Я слышал это заявление мельком, конкретных документов не читал. Вообще, с точки зрения инвестиционного климата это очень привлекательное предложение, которое приведет к притоку инвестиций. Но насколько оно близко к воплощению? Реальность или, так сказать, очередная заманушка? Все дело в том, какой документ появится после устного заявления министра экономики.

**Василий ШЛЫНДИКОВ, экономист, председатель постоянной комиссии Верховного Совета 13-го созыва по экономической политике и реформам:**

— Землю в частную собственность будут отдавать только иностранным инвесторам? Надо уточнить. Я сторонник единообразных решений: продавать землю в частную собственность всем желающим. Почему до сих пор нет права частной собственности на землю? Я глубоко убежден, что это надо делать. Но убежден и в том, что ничего не изменится в нашей экономике от этого, потому что общая система такова, что если хочешь закопать деньги в землю — инвестируй! Другое дело, если начнут продавать, например, голландцам, чтобы они фермерствовали, землю пахали. Или китайцам, чтобы овощи выращивали. А так — бесполезно.

**Василий БАРАУЛЯ, глава крестьянского хозяйства “Бараули В.А.” (Крупский район):**

— Единственное, что у белоруса еще осталось, — это земля... Но почему не даете прежде всего нам, гражданам страны, воспользоваться правом покупки земли в частное владение? И потом вопрос: а продаст ли Евросоюз землю мне, белорусу? Я спрашивал у литовских фермеров. Нет, не продаст, отвечали они. Так что нам себя уважать надо. Конечно, западные технологии нам очень нужны. Но боюсь, что прибыль “проедят”, как обычно, силовые структуры. В общем, я сторонник того, чтобы прежде всего свои люди расправили крылья, чтобы богатство своих не считалось грехом.

**Андрей АЛЕШКИН, глава представительства в Минске Colliers International — международной консалтинговой компании:**

— Я отношусь к заявлению министра экономики о продаже земли иностранным инвесторам позитивно. Тем более что этот инструмент у нас уже работает: вы знаете, оманский инвестор в 2010 году купил земельный участок по улице Янки Купалы за 10 миллионов долларов (по указу президента. — **Ред**.). Просто до сих пор недостаточно проработан механизм продажи, хотя по инвестиционному договору купить землю можно и сейчас. Но когда появится закон о частной собственности на землю, это станет дополнительным позитивным фактором для инвесторов, так как земля будет дополнительным залоговым имуществом.

**Игорь ЛОГВИНОВ, владелец издательства “ЛогвінаЎ”:**

— У меня вопрос: землю в частную собственность будут давать только иностранным инвесторам или отечественным тоже? А вообще, я не вижу проблемы, пусть продают. Мне все равно. За 20 лет нас всех сделали бедными, так что большинство все равно ни на что претендовать не может.

**Юрий ЗИССЕР, основатель и совладелец белорусского интернет-портала TUT.BY:**

— Думаю, никто этого не даст сделать. У нас — социализм, что плохо совместимо с частной собственностью на землю.

**Елена МОЛОЧКО.**

ПАЗІЦЫЯ



## Уладзімір Мацкевіч супраць «лёгкай дысідэнтнасці»

*Як паведамлялася, прадстаўнікі беларускіх няўрадавых арганізацый абралі сваім фактычным лідарам філосафа і метадолага Уладзіміра Мацкевіча. І гэта можа істотна паўплываць на далейшую кансалідацыю так званага “трэцяга сектара”.*

Калі дакладней, большасцю галасоў, але не адзінадушна (31 з 44) была прынята Канцэпцыя развіцця Нацыянальнай платформы на 2012—2014 гады ў рэдакцыі Мацкевіча. А ён прапанаваў курс на “палітызацыю” так званых недзяржаўных арганізацый.

Усіх, хто не падтрымаў гэты курс, спадар Мацкевіч назваў ледзьве не калабарантамі рэжыму: “Іх цалкам задавальняе тое, што адбываецца зараз у Беларусі. Той стан іх лёгкай дысідэнтнасці, лёгкай нязгоды з рэжымам”, — заявіў Мацкевіч. Напрыклад, гэта тычыцца Офіса за дэмакратычную Беларусь у Брусэлі, які выступіў супраць прапаноў Мацкевіча і ў адказ атрымаў “заўвагу”: “Досыць утульна ўладкаваўся ў Брусэлі. І яго задавальняе такая пасрэдніцкая функцыя — вазіць беларусаў у Брусель. Ёсць заўсёды занятак, ёсць заўсёды справы”.

Мацкевіч “прайшоўся” і па Беларускім Хельсінкскім камітэце: “У мяне вельмі крытычнае стаўленне да таго, што робіць БХК на чале з Алегам Гулакам. Гавораць яны правільныя і дэмакратычныя рэчы. А калі даходзіць да справы, то яны блакіруюць аб’яднанне. Загаворваюць рашэнні. Абы нічога не рабіць”, — сказаў Мацкевіч.

Зразумела, што ў сувязі з такой актыўнасцю Уладзіміра Мацкевіча з’явіліся чуткі, што ён асабіста плануе вылучыцца кандыдатам у прэзідэнты на будучых выбарах, адсюль і такая раптоўная цікавасць да палітызацыі дзейнасці “трэцяга сектара”. Але напярэдадні сходу прадстаўнікоў НДА сам Уладзімір Мацкевіч усім ім накіраваў ліст, у якім запэўніў, што ніякіх прэзідэнцкіх амбіцый не мае.

**Алена НОВІКАВА.**

НУ І НУ!

## *А калі б пажар быў сур’ёзным?*

Учора ў цэнтры Мінска ўзнік пажар у будынку БДУ па вуліцы Рэвалюцыйнай. Але пажарныя, якія неадкладна прыбылі на месца здарэння, да будынка дабрацца не маглі з-за машын, якія запоўнілі ўсю вуліцу. Ратавальнікі неслі абсталяванне ўручную. За гэты час з будынка былі выведзены 400 чалавек (50 чалавек персаналу, 350 вучняў). Неўзабаве пажар быў ліквідаваны. Прычыны высвятляюцца.

— З жахам можна ўявіць, што магло здарыцца, калі б пажар быў сур’ёзным, — заявіў памочнік начальніка Мінскага гарадскога ўпраўлення Міністэрства па надзвычайных сітуацыях Віталь Дэмбоўскі. — У многіх выпадках аўтамабілі стаяць не проста насуперак ПДР, але і насуперак здароваму сэнсу, з наплявацельскім стаўленнем да астатніх удзельнікаў дарожнага руху.

Але ўзнікае яшчэ адно пытанне: а дзе былі супрацоўнікі ДАІ?



## Часы премьера




**Такие часы, как у премьера, продаются в одном из минских магазинов — 317.796.800 рублей.**



*(Продолжение темы — на 2-й стр.)*

ГУЧНАЯ СПРАВА

## Кулю назад не вернеш

*Камітэт па правах чалавека ААН, разгледзеўшы скаргу па справе “беларускіх тэрарыстаў” Уладзіслава Кавалёва і Дзмітрыя Канавалава, палічыў іх віну недаказанай, а справу — праведзенай з вялікімі парушэннямі. Але беларускі бок так спяшаўся пакараць “вінаватых”, што не стаў чакаць вердыкту міжнародных экспертаў. Хлопцаў ужо няма, іх расстралялі. Выправіць такую “памылку” проста немагчыма.*

Эксперты Камітэта па правах чалавека, якія прадстаўлялі 18 краін свету, прыйшлі да высновы, што ў справе, распачатай па факце выбуху ў мінскім метро 11 красавіка 2011 года, не было сабрана дастаткова доказаў віны **Уладзіслава Кавалёва** і **Дзмітрыя Канавалава**.

Беспрэцэдэнтнай можна назваць саму рэгістрацыю заявы ў ААН ад маці і сястры Уладзіслава Кавалёва — яны звярнуліся 14 снежня, а рэгістрацыя адбылася 15-га, на наступны ж дзень. Хаця звычайна ад падачы заявы да яе рэгістрацыі праходзіць некалькі месяцаў. У гэтым выпадку ў Камітэце ААН улічылі беларускую рэчаіснасць (бо адлік ішоў на гадзіны) і пайшлі насустрач маці. ААН прасіла беларускія ўлады не спяшацца з выкананнем прысуду і зрабіць захады для так званай прамежкавай абароны. Але ў Мінску нікога слухаць не хацелі і ўжо рыхтавалі “расстрэльную каманду”.

Беларускі бок, дарэчы, зараз спасылаецца на тое, што рэгістрацыя скаргі Кавалёвых адбылася з нейкімі парушэннямі і таму, відаць, рашэнні Камітэта ААН будзе ігнараваць. Ва ўсялякім разе ў бліжэйшы час мы ўбачым, ці прыслухаецца Беларусь да міжнародных экспертаў. Бо Камітэт ААН па правах чалавека запатрабаваў ад беларускага боку надрукаваць у цэнтральных СМІ тэкст рашэння па справе Кавалёва і Канавалава. Калі жыццё хлопцам выратаваць немагчыма, то трэба хоць абяліць іхныя імёны... Але ніхто не можа сказаць з упэўненасцю, што рашэнне ААН з’явіцца ў афіцыйных СМІ.

Маці расстралянага Уладзіслава Кавалёва не можа стрымаць слёзы, калі чытае высновы экспертаў. За сухімі фразамі стаяць эпізоды тых страшных падзей.

Эксперты на самым пачатку зазначалі, што да Уладзіслава Кавалёва ўжывалася фізічная сіла, каб прымусіць яго агаварыць сябе ў гэтай справе. Калі ж яны прааналізавалі, як дзяржаўныя СМІ асвятлялі тэму тэракта, яшчэ да вынясення рашэння суда называючы Кавалёва і Канавалава цынічнымі злачынцамі, дык заявілі, што ў дачыненні да хлопцаў быў груба парушаны прынцып прэзумпцыі невінаватасці.

Што да суда, то міжнародныя эксперты палічылі, што яго нельга назваць бесстароннім. Дастаткова прыгадаць, што суд не задаволіў амаль ніводнага хадайніцтва адвакатаў, затое ахвотна прыслухоўваўся да пракурораў.

Крытычна выказаліся эксперты і пра рэчавыя доказы, якія меліся ў справе. Усяго пералік парушэнняў складаецца з 8 пунктаў: ад парушанага права на абскарджванне прысуду да незаконнага пазбаўлення грамадзяніна краіны права на жыццё.

Беларускія ўлады ўжо бліжэйшым часам атрымаюць рашэнне Камітэта па правах чалавека ААН. Яго прывязуць з Жэневы па дыпламатычных каналах. Маці расстралянага Уладзіслава Кавалёва атрымала яго “паскораным маршрутам” — па міжнароднай пошце.

**Любоў ЛУНЁВА.**

Народная Воля http://www.nv-online.info
23 ЛІСТАПАДА 2012 г.

ОБ ЭТОМ ГОВОРЯТ...

*Вот уже несколько дней интернет и независимая пресса гудят по поводу часов за 37 тысяч долларов премьер-министра **Михаила Мясниковича**. Поскольку с его стороны никакого опровержения не последовало, имеются основания полагать, что журналист и блогер Антон Мотолько не ошибся ни со снимком, ни с оценкой часов второго лица страны.*

*Понятно, эта тема вызвала у общественности бурю эмоций. И не случайно. Сам собой возник вопрос:*

# Нормально ли это, когда у премьера часы за 37 тысяч долларов, а у пенсионеров нет денег на лекарства?

**Барак Обама, президент США**



**$200**

**Бронислав Коморовский, президент Польши**



**$220**

**Александр Лукашенко, президент Беларуси**



**$17 000**

**Дмитрий Медведев, премьер-министр России**



**$32 000**

**Михаил Мясникович, премьер-министр Беларуси**



**$37 000**

**Патриарх Кирилл**



**$38 000**

**Владимир Путин, президент России**



**$49 000**

**Виктор Янукович, президент Украины**



**$160 000**

**Софья МОНАХОВА, пенсионерка:**

— Конечно, ненормально. Возможно, человек и может себе позволить такие дорогие часы, но не надо это выносить на публику. Раздражает. А еще я бы посоветовала Мясниковичу продать эти часы и передать деньги в какой-нибудь детский дом. Или больным и обездоленным людям на лекарства.

**Ольга ШИЯН, заместитель директора по воспитательной работе гимназии №18 г.Минска:**

— Очень спокойно к этому отношусь, потому что дорогие вещи — личное дело каждого. Не люблю считать деньги в чужом кармане. Я, может быть, себе такие часы не могу позволить, но у меня и потребности в этом нет.

**Алла ГОНЧАРОВА, оператор службы доставки почтового отделения №30 г.Минска:**

— Скромнее надо быть. Все-таки публичное официальное лицо! Даже если часы — подарок, это ко многому обязывает.

**Наталья ТИЩЕНКО, главный инженер ЖЭС №113 г.Минска:**

— Моя позиция по жизни — не завидовать другим. Не мое — значит, чужое. Если кто-то достаточно зарабатывает и считает жизненно необходимым купить часы за 37 тысяч долларов, то, может, они ему и действительно нужны. А если соотносить пенсии и зарплаты с дорогими часами чиновника... Зарплаты надо зарабатывать. С чего они должны быть большими?

**Александр СОЛОДУХА, певец:**

— Абсолютно нормально. Даже добавить нечего.

**Геннадий РОМАНОВ, рабочий ОАО “Беларуськалий”:**

— Неправильно это. У нашего премьер-министра, насколько я понимаю, нет частного бизнеса. Хотя слышал, что в некоторых странах практикуется, когда высокие чиновники одновременно являются и соучредителями фирм. Или у человека есть наследство от дедушки или бабушки. Тогда все понятно — можешь ездить хоть на “Maserati”. А в данном случае у народа появляются вопросы.

**Змитер ВИШНЕВ, литератор и художник:**

— Я бы не стал ставить вопрос таким образом. Как мне кажется, люди, которые представляют страну (дипломаты, высокие чиновники), должны выглядеть презентабельно. Это нормально. Кроме того, часы могут быть подарком от кого-то. А если это подарок, то при чем здесь пенсионеры? Выбросить часы и сказать: “Я их больше не буду носить, потому что все вокруг плохо”? Вопрос совершенно нетактичный.

**Опрашивал Алесь СВЕТЛАНИЧ.**

ЗВОНОК В ДОМ ПРАВИТЕЛЬСТВА

## *«Не надо скатываться до желтизны»*

Как отреагировал на информацию о дорогих часах сам Михаил Мясникович? Не возникло ли у него желание собрать пресс-конференцию и объяснить, откуда у него такая дорогая вещица? В любой цивилизованной стране это нормальное явление, когда высокопоставленные чиновники оправдываются публично после скандальных сообщений в прессе, в том числе когда речь идет и об их личной жизни.

Эти вопросы мы адресовали пресс-секретарю премьер-министра **Ольге Долгой**. И вот что услышали:

— *Михаил Владимирович настолько загружен работой, что ему просто некогда отвлекаться на такие вещи,* — заявила она. — *Я же могу комментировать только вопросы, которые касаются его профессиональной деятельности... Мне кажется, не надо скатываться до желтизны.*

Похоже на то, что в чиновничьих кабинетах нашего правительства советское время застыло навсегда.

**Ольга ГРИНЕВИЦКАЯ.**

ПРОЕКТЫ

***Как известно, 15 ноября в Минске прошел седьмой Белорусский инвестиционный форум. На нем было презентовано 23 инвестпроекта на сумму 1 млрд долларов.***

# Что предлагалось инвесторам?

*На форуме свои проекты презентовали разные ведомства: министерства сельского хозяйства и продовольствия, промышленности, здравоохранения, энергетики, облисполкомы, концерн “Белгоспищепром”, Национальная академия наук.*

*Среди самых крупных и масштабных проектов было выделено несколько:*

*1. Строительство делового центра “Минск-Сити” на территории бывшего столичного аэропорта “Минск-1”.*

*2. Строительство сахарного комбината мощностью 12 тыс. тонн переработки свеклы в сутки в Дятловском районе Гродненской области. Строительство объекта оценивается в 330 млн долларов.*

*3. Строительство пяти ГЭС — Немновской, Оршанской, Шкловской, Могилевской и Речицкой.*

*4. Строительство четырех ветропарков — в Лиозненском, Ошмянском, Новогрудском и Сморгонском районах.*

К СЛОВУ

# Не имея больших денег, в Минске делать нечего

В основном инвесторам предлагались земельные участки в центре столицы под строительство многофункциональных центров, гостиничных комплексов. Для потенциальных инвесторов даже организовали бизнес-тур с посещением этих участков.

Например, участникам форума показали небезызвестную территорию в квартале ул. Я.Купалы — М.Богдановича — Выставочный комплекс — 2-я городская больница. Оманские инвесторы, которым этот участок был передан еще несколько лет назад, от строительства многофункционального комплекса отказались.

Не первый раз на аукцион выставляется Полиграфкомбинат имени Якуба Коласа, который расположен рядом с площадью Якуба Коласа, напротив столичного ЦУМа. Городские власти планируют создать тут гостиничный комплекс. Но инвесторы пока не находятся. Не устраивает цена вопроса: за здание Полиграфкомбината городские власти хотят почти 50 миллионов долларов.

15 ноября город Минск предложил также на рассмотрение инвесторов и ряд других проектов:

— участок под строительство многофункционального общественно-жилого комплекса по ул.Кропоткина;

— участок под строительство многофункционального культурно-делового и финансового комплекса национальных традиций в границах пер.Серебрянского и р.Свислочь;

— инвестиционная площадка по ул.Матусевича — Тимошенко с выносом предприятия ОАО “Сукно”;

— инвестиционная площадка по ул.Чижевских, 17 и проезду Чижевских, 5, 6 для размещения гостиницы.

Итоги форума: подписано 12 протоколов об инвестиционных намерениях. Среди них — протокол о намерениях создания СП по производству энергетического оборудования, СП по производству сыра “Моцарелла”, о строительстве на территории СЭЗ “Могилев” завода по производству древесных плит, о производстве оборудования по очистке воды и другие.

Что касается столичных проектов, то Мингорисполком подписал три инвестиционных договора. Два о строительстве в столице многофункциональных комплексов: в районе улиц Толстого — Дружной — Вокзальной (деньги намерена вложить кипрская компания Ammeasco Holdings Limited) и в районе улиц Солтыса — Ваупшасова (средства планирует вложить СЗАО “Простор-Трейд”). Еще один проект — производственной направленности, он предполагает создание в Минске производства по выпуску литьевых пресс-форм, редукторов и тормозных систем.

Организаторы форума, правда, подчеркивают, что о результатах говорить пока рано. Форум, мол, был задуман как площадка для диалога с иностранными инвесторами, установления контактов, деловых переговоров. Т.е. чиновники не теряют надежды привлечь инвестиции в Беларусь. Что будет на практике, покажет время.

**Ольга ГРИНЕВИЦКАЯ.**

## *Беларусь стала экспарцёрам акул і слановай косці*

Па выніках трох кварталаў 2012 года Беларусь прадала ў Расію 59 тон марожанай акулы на агульную суму 216 тысяч долараў. Гэта вынікае з апублікаванай справаздачы Белстата.

Дакумент зафіксаваў і іншыя “экзатычныя” экспартныя тавары, якія шлі з Беларусі, — напрыклад, сушаныя яйкі птушак (на 312 тысяч долараў), чалавечыя валасы (13,5 тысячы долараў), слановую косць, панцыры чарапах і многае іншае. Пакупнікам большасці гэтых тавараў значацца расійскія кампаніі.

Што ж тычыцца акул, то, як высветлілася, вытворцамі марожанай акулы наша краіна выкарыстоўваецца як тэрыторыя, з якой тавар можна перанакіраваць у Расію. За 9 месяцаў у Беларусь паступіла 108 тон гэтага тавару на агульную суму 230,7 тысячы долараў. Прычым большая частка імпарту прыйшлася на Новую Зеландыю. Амаль увесь тавар пайшоў у Расію, павялічыўшы паказчыкі аб’ёмаў беларускага экспарту ўсходняй суседцы. Хаця стэйкам з акулы можна пачаставацца і ў некаторых мінскіх рэстаранах. Але вялікім попытам і папулярнасцю гэтая страва ў нас не карыстаецца, каб так ужо ўлягаць у гандаль з Новай Зеландыяй.

СІТУАЦЫЯ

# Ва ўгоду камерсантам пакрыўдзілі жывых і мёртвых



Уладзімір Антонавіч Мурашка нарадзіўся ў 1928 годзе ў вёсцы Пятроўшчына. Саму вёску з часам праглынуў Мінск, але яна не знікла бясследна. Ад яе засталася назва станцыі метро і аднайменныя могілкі. Уладзімір Антонавіч кажа, што ён сам “ужо практычна на іх пахаваны”. На надмагільнай пліце яго прозвішча стаіць побач з жончыным, застаецца адкрытай толькі дата смерці...

Акрамя жонкі тут пахаваны таксама іншыя яго сваякі. У тым ліку раскулачаныя ў 1930-х гадах дзед з бабай. Да ўсіх іх 84-гадовы Уладзімір Антонавіч вельмі часта наведваецца, дабіраючыся сюды амаль праз увесь горад з вуліцы Сурганава.

Нягледзячы на свой пачэсны ўзрост, калі чалавек ужо заслужыў права на адпачынак ад актыўнай дзейнасці, апошнія гады Уладзімір Антонавіч прысвяціў барацьбе з гарадскімі ўладамі, адказнымі за добраўпарадкаванне могілак. Дакладней, барацьбой гэта лічаць самі ўлады, тады як спадар Мурашка ўпэўнены, што добраахвотна дапамагае выконваць іх працу.

Без яго ўвагі не заставалася ніводная дробязь. І часткова абрушаны плот, і адсутнасць кантэйнераў для смецця і г.д. Многае дагэтуль не выпраўлена, але апошнім часам спіс праблем яшчэ і папоўніўся — з-за пабудовы аўтасэрвісу ЗАТ “Скімен” аказаўся перакрытым уваход на старую частку могілак.

Гэты ўваход стаў галоўным прадметам клопату Уладзіміра Антонавіча. Справа ў тым, што новая частка могілак (дзе, дарэчы, пахаваны Уладзь Каткоўскі — адзін з пачынальнікаў беларускамоўнага інтэрнэту, яго актыўны і вядомы дзеяч, які памёр у 2007 годзе) знаходзіцца ў нізіне, туды вядзе асфальтавая дарога, а старая — на ўзгорку. Раней сюды спакойна можна было патрапіць без альпінісцкіх практыкаванняў. Цяпер будынак аўтасэрвісу стаіць упрытык да плота, літаральна за палову локця ад яго. У сувязі з чым уваход папросту заварылі. Пакінь будаўнікі некалькі дадатковых метраў — праблемы не паўстала б. Але ж нехта на тыя метры паквапіўся...

Такім чынам, Уладзіміру Антонавічу, як і іншым наведвальнікам могілак, у асноўным пажылым людзям, даводзіцца спачатку спусціцца ўніз, а потым караскацца на ўзгорак па вузенькай і пакручастай сцяжынцы. Па словах спадара Мурашкі, пры ім тут ужо двойчы пенсіянеркі ламалі сабе ногі.

Гэта калі пад’язджаць да могілак на транспарце па вуліцы Сямашкі. Мы з Уладзімірам Антонавічам рабілі менавіта так. Дзеля справядлівасці трэба заўважыць, што існуе іншы ўваход — з боку нядаўна адкрытай станцыі метро “Пятроўшчына”. Аднак падысці да яго можна, толькі пераадолеўшы крутую і слізкую ад бруду горку.

У спадара Мурашкі назапасіўся ўжо цэлы стос адказаў з розных інстанцый. Сам ён называе іх проста адпіскамі. Улады адгаворваюцца і абяцаюць, што ў самым хуткім часе ўсё будзе зроблена найлепшым чынам. І так два гады.

Магчыма, калі-небудзь новая брамка на ўваходзе на могілкі сапраўды з’явіцца. Тым не менш застанецца адкрытым пытанне: а ці будзе калі-небудзь сорамна тым, хто ва ўгоду часовай камерцыйнай выгадзе пакрыўдзіў жывых і мёртвых?

**Дзмітрый ГАЛКО.**



## *Квота на дрова*

*Правительство установило квоты на продажу твердых видов топлива по невысоким ценам.*

В соответствии с решением Совета министров, в календарном году на одно домовладение полагается не более 3,5 тонны топливных брикетов, 4 тонны кускового торфа, 4,9 кубометра дров, 2,5 тонны угля. Причем выбирать придется только один из видов топлива.

Нормы, единые для всей страны, закреплены в Положении о порядке обеспечения населения твердыми видами топлива и возмещения разницы в ценах на твердые виды топлива, реализуемые населению по фиксированным розничным ценам. Постановление правительства вступает в силу 1 января 2013 года.

Более того, топливо по фиксированным ценам смогут купить не все желающие, а только живущие (и обязательно зарегистрированные) в домах с печным (водяным, паровым) отоплением или другим отопительным оборудованием с использованием твердых видов топлива, которые не подключены к системе централизованного теплоснабжения. При этом льгот на распиловку и колку дров, погрузку и разгрузку, а также доставку топлива нет. Квота не может быть увеличена в зависимости от размера дома или от количества проживающих в нем. Для всех домовладений она одна.

**Игорь МОРОЗОВ.**

ГУЧНАЯ СПРАВА

# Пракурор запрасіў для Сяргея Дземчука «васьмёрачку»

***Пра «дзейнасць» гэтага бізнесмена «Народная Воля» расказвала ў адным з мінулых нумароў. Матэрыял называўся «Круговая оборона», і напісалі яго людзі, якія аддалі свае грошы бізнесмену Сяргею Дземчуку на будаўніцтва кватэр, але не дачакаліся ні кватэр, ні вяртання грошай.***

Тым часам разгляд справы Дземчука ў судзе ўжо набліжаецца да фіналу. На гэтым тыдні пракурор папрасіў суд прызнаць бізнесмена вінаватым у махлярстве ў асабліва буйным памеры, учыненым групай асоб па папярэдняй змове, і пакараць яго 8 гадамі зняволення. Урон, які бізнесмен нанёс людзям, зараз ацэньваецца ў 19,9 мільярда рублёў. Таму пракурор лічыць, што суд павінен вынесці і рашэнне аб канфіскацыі маёмасці Дземчука.

Нагадаем, што працэс над Дземчуком цягнецца з сакавіка 2011 года. Суддзя **Таццяна Равінская** нават апраўдала бізнесмена, не ўбачыўшы ніякага злачынства ў сітуацыі, калі людзі аплацілі будаўніцтва кватэр, але жылля так і не атрымалі. У сувязі з гэтым арышт з маёмасці Дземчука быў зняты, нягледзячы на пратэсты дольшчыкаў і іх адвакатаў. І вось зараз пракурор палічыў віну Дземчука даказанай. Але ці будзе яму чым разлічвацца з падманутымі людзьмі, калі такую ж пазіцыю зойме суд? Адказ на гэтае пытанне невядомы, бо часу, каб перапісаць і перааформіць маёмасць, у бізнесмена было дастаткова. Тым больш што да апошняга часу ён нават не быў арыштаваны, хаця шкода, якую Дзямчук нанёс людзям, ацэньваецца ў многія мільёны долараў.

Сяргей Дзямчук — адзін з самых вядомых беларускіх бізнесменаў у сферы нерухомасці. Заснавальнік, фактычны ўласнік і кіраўнік ТДА “Перспектыва-Інвест Рыд”, ТАА “Паркінг-Інвест Буд”, ТДА “Вытворча-інвестыцыйная група”, СТАА “Сталічны цэнтр”, а таксама ТДА “Перспектыва-Інвест Буд” і ТДА “Армеец”. У крымінальных хроніках ягонае прозвішча з’явілася яшчэ ў 2000 годзе ў сувязі са справай аб хабары на “Паркінгу”, якую ў той час узбудзіў КДБ. Тады Дзямчук толькі пачынаў бізнес-кар’еру. Затое на момант, калі пачала раскручвацца справа з падманутымі дольшчыкамі, арыштаваная маёмасць Дземчука ўжо складала:

— два жылыя дамы ў прэстыжным прыгарадзе Мінска;

— грошы на дзесяці рахунках у розных банках;

— два памяшканні грамадскага харчавання ў Мінску;

— два матацыклы, адзін гідрацыкл і два прычэпы;

— шэсць аўтамабіляў, сярод іх — чатыры джыпы;

— чатыры зямельныя ўчасткі ў прэстыжным прыгарадзе Мінска;

— нерухомая маёмасць у Мінску і гарадскім пасёлку Клецк (Мінская вобласць) — офісы, боксы ў гандлёвых цэнтрах, капітальны будынак і г.д.

Гэтыя звесткі друкаваліся ў СМІ і добра вядомыя. А яшчэ вядома, што суддзя Таццяна Уладзіміраўна Равінская, якая на першым судзе апраўдала Дземчука, хутка пайшла на павышэнне і зараз працуе ў Мінскім гарадскім судзе. Дарэчы, пасля падзей снежня 2010 года менавіта яна судзіла Дзмітрыя Бандарэнку, які быў даверанай асобай кандыдата ў прэзідэнты Андрэя Саннікава.

**Ірына МАЛЬЦАВА.**

ПОСТАЦІ

*Васіль ЯКАВЕНКА, пісьменнік*

# Кола дзён Анатоля Белага

*Чалавек, які, на вялікі жаль, не так даўно сышоў ад нас, быў адкрытым, порсткім і, як мне ўяўляецца, шматгранным у праявах свайго характару беларусам, асобай неспакойнага нораву.*



## Лісты да Гарбачова

Маё асабістае знаёмства з ім прыпала на першыя гады перабудовы. Хаця па-ранейшаму кансерватыўны партыйны монстр тады яшчэ хапаў за фалды любога, хто імкнуўся да адраджэння нацыянальнага жыцця (свежым у памяці на той час быў лёс такой светлай і трагічнай асобы, як Мікола Прашковіч, літаратуразнаўца), зямля беларуская спакваля адтайвала, пазбаўляючыся скутасці. І тыя, хто акурат у Беларусі бачыў сваю пракаветную і сапраўдную Айчыну, пачалі шукаць аднадумцаў, паплечнікаў, утвараць гурткі, клубы, майстроўні, збірацца талакой, абмяркоўваць самае хвалюючае. Піянерам тут быў і Анатоль Белы, якога яшчэ ў 1984 годзе азарыла стварыць культурна-асветны клуб "Спадчына" дзеля назапашвання і захавання скарбаў матэрыяльнай і духоўнай культуры беларусаў.

Я быў добра знаёмы з некаторымі паплечнікамі Белага, не ўваходзячы ў іхні клуб. Але ў 1987 годзе ў нас нібыта сама па сабе сфарміравалася канспіратыўная група, якая, кантактуючы праз майстэрню мастака Аляксея Марачкіна, рыхтавала палітычна абгрунтаваныя, вагавітыя, як нам здавалася, лісты да галоўнага прараба перабудовы М.Гарбачова. У тых лістах мы хадайнічалі за беларускую мову, яе вяртанне народу. Пад лістамі адзін за адным падпісваўся найбольш свядомы люд. Адвезлі чалабітную цягніком у Маскву. Дык вось, калі адзін з лістоў па маёй прапанове падпісаў і Белы, адзін наш сярмяжны канспіратар К. з надзьмутымі вуснамі ўзяў дый заляпіў ягоны подпіс. На маё пытанне, чаму ён гэта зрабіў, быў адказ: "А гэта правакатар!" Мелася на ўвазе — стукач КДБ...

Анатоль Яўхімавіч працаваў тады выкладчыкам на кафедры марксісцка-ленінскай філасофіі, і каму-нікаму здавалася, што ўжо адно гэтае кідае цень на яго як на патрыёта. Але ж і тое праўда, што не месца вызначае сутнасць чалавека. Я ведаў пра яго задумы і клопаты і губляўся ў здагадках: каго ў яго болей: сяброў ці зламыснікаў?

## Музей у бацькоўскім кутку

Белы рабіў сваю новую, "спадчынную", справу годна. Рабіў разам з грамадой у 30—40 чалавек, якую згуртаваў вакол сябе. Надзейнай памочніцай яго стала жонка Ала Мікалаеўна, выкладчыца музыкі, а па другой адукацыі — філасафіня. У педагагічным вучылішчы ў Мінску выкладала музыку, этыку, эстэтыку. Спакойная, роўная, ціхая — у процілегласць узрыўному характару Анатоля, яна, хаця нарадзілася ў Расіі, была разам з ім побач заўсёды. Без яе слушных парад не абышлося пры стварэнні Белым музея выяўленчага мастацтва ў Старых Дарогах.

Былы вайсковы лётчык Анатоль Белы (служыў у Запаляр'і) вярнуўшыся да цывільнага жыцця на Радзіме, зусім натуральна і ўсёй душой успрыняў ідэю далейшага служэння сваёй Бацькаўшчыне — Беларусі... Музей на ягонай спадчыннай сядзібе ўражваў. Дзівіла рупнасць актыўных сяброў клуба — скульптараў Сяргея Вакара, Міколы Несцярэўскага, Міхася Іанькова, Уладзіміра Летуна, Анатоля Крывенкі, Уладзіміра Мелехава.

Апантаны стварэннем музея ў бацькоўскім кутку, Анатоль Яўхімавіч вельмі спрыяў і з'яўленню помніка Максіму Багдановічу ў Яраслаўлі, адкуль ягоная жонка Ала родам, а таксама скульптурнага партрэта Ларысы Геніюш у Зэльве, помніка Міколу Ермаловічу ў Маладзечне, скульптурнага ансамбля легендарных беларускіх асветнікаў — Францішка Скарыны, Міколы Гусоўскага, Еўфрасінні Полацкай, Кірылы Тураўскага, Сымона Буднага, Васіля Цяпінскага — ва ўніверсітэцкім дворыку ў Мінску. Аўтарамі выяў у камені былі Сяргей Адашкевіч, Уладзімір Голубеў, Уладзімір Панцялееў, Аляксандр Прохараў. Гэты гістарычны і высокамастацкі комплекс — з'ява, што заслугоўвае ўвагі і прызнання з боку дзяржавы. Аднак ні тым скульптарам, ні таму Беламу ніхто з уладных людзей нават дзякуй не сказаў. А ён яшчэ марыў паставіць над Свіслаччу помнік Вялікаму князю Вітаўту на кані!

Кола беларускіх інтэлігентных валанцёраў, захопленых ідэямі і задумамі няўрымслівага чалавека, шырылася. У ліку валанцёраў — добраахвотных памагатых і дарадцаў Белага — былі яшчэ паэт Яўген Гучок, археолаг і гісторык Пятро Русаў, мастакі Алесь Цыркуноў і Міхась Карпук, бібліятэкар Аляксандра Лісоўская, педагогі Надзея Сармант і Ірына Кісялёва, гісторыкі Леанід Лыч і Анатоль Валахановіч, літаратуразнаўца Уладзімір Содаль. Яны з натхненнем ахвяравалі сваім часам і энергіяй пры распрацоўцы і ўвасабленні ў жыццё розных цікавых праектаў, рабілі шмат карыснага, добрага на зямлі сваіх продкаў дзеля прапаганды нацыянальнай гісторыка-культурнай спадчыны. Таму я без ваганняў даў Беламу рэкамендацыю ў Саюз беларускіх пісьменнікаў.

## Вандроўка ў ЗША

...У 1991-м, пры шчаслівым збегу абставін, у мяне — кіраўніка Беларускага сацыяльна-экалагічнага саюза "Чарнобыль" і рэдактара тагачаснай газеты "Набат", надарылася магчымасць наведацца ў Злучаныя Штаты Амерыкі, прычым у кампаніі двух чынных дзеячаў на мой выбар. Я запрасіў у паездку Анатоля Белага, ён ужо паспеў пабываць за акіянам, завязаць знаёмства з беларускімі эмігрантамі за акіянам (апынуўся там па запрашэнні Беларускага інстытута навукі і мастацтва ў ЗША). Тым болей, у горадзе Кліўлендзе жыла яго дачка Святлана, акурат на кватэры ў Міхася Белемука — дасведчанага ў гістарычных падзеях, нацыянальна свядомага, заўзятага беларускага нумізмата, разам з ім стала выпускаць літаратурна-гістарычны часопіс "Полацак".

Анатоль Белы нутром адчуваў, што ў асяродку эмігрантаў за мяжой ляжыць яшчэ не крануты даследчыкамі спадчынны скарб пазнавальнага і выяўленчага характару. Ведаў, што беларуская дыяспара ў Штатах мела шмат адметных асоб — палітыкаў, літаратараў, краязнаўцаў, творцаў, пра якіх памяць людская на Бацькаўшчыне ўжо амаль сцёрлася, а моладзь пра іх наогул нічога не ведае. Матэрыялам аб суайчынніках, іх духоўных набытках — якраз месца ў ягоным музеі.

Другім з намі быў Аляксандр Люцко, які марыў заснаваць у Мінску міжнародны вышэйшы каледж па радыеэкалогіі з наданнем яму імя А.Сахарава, і беларускаму энтузіясту вельмі дарэчы была падтрымка ў навуковых колах ЗША...

Спачатку мы патрапілі ў Нью-Ёрк, адтуль у Кліўленд, спыніліся на кватэры ў таго ж Белемука. Міхась — невысокі, рухавы, жвавы — шчыра і сардэчна апекаваўся намі, як і Святлана, дачка Анатоля Яўхімавіча. Дні праходзілі ў паглыбленні знаёмстваў у асяродку дыяспары, у няспынных гутарках, дыскусіях. Анатоль сустракаўся з кліўлендскімі беларусамі. Я тым часам паслаў ліст Аляксандру Салжаніцыну, і мне патэлефанавала ягоная жонка Наталля Дзмітрыеўна. Яна дала адрас журналісткі ў Нью-Ёрку, якую я павінен быў пазнаёміць з чарнобыльскай сітуацыяй у Беларусі.

...На той час Анатоль Белы ўжо ўспрымаўся беларусамі Кліўленда сваім чалавекам, сур'ёзным, але з гумарам і прыхаванай іскрынкай у цікаўных вачах. Ён пазнаёміў мяне з дзеячам дыяспары Кастусём Мерляком, падчас вайны, на якую прыпала яго маладосць, быў у Беларускай краёвай абароне. Гэта кідала на яго цень як на ворага савецкай улады... Мярляк паказаў мне свае ўспаміны, напісаныя ім пра свой пакручасты жыццёвы шлях. Некаторыя раздзелы рукапісу, што тычыліся Беларусі, я надрукаваў неўзабаве ў газеце "Набат", чым вельмі здзівіў яго і ўзрадаваў, бо ён лічыў магчымасць публікацыі на Бацькаўшчыне зусім непамыснай. У 1994 годзе я выдаў Кастусёву кнігу.

...А.Белы адшукаў нашага суайчынніка Анатоля Бярозку (Мацея Смаршчка) у гарадку Мантэсэля (штат Мінесота), паэта з літаратурнага асяроддзя часопіса "Калоссе" ў 30-я гады. Былы выпускнік Віленскага ўніверсітэта працаваў там доктарам, і адмысловым, варта дадаць, бо ягонай славы хапіла на тое, каб шпіталю надалі потым яго імя. Анатоль Белы выдаў "Выбранае" выдатнага паэта ў 2004 годзе.

Анатоль не абмяжоўваўся шапачным знаёмствам з беларускімі дзеячамі Міхасём Белемуком, Антонам Шукелойцем, Кастусём Мерляком, Анатолем і Наталляй Лук'янчыкамі, Вольгай Лукашэвіч, Юляй Андрусішынай — найвыдатнымі асобамі на амерыканскім мацерыку. Ён як мог стараўся вярнуць і вяртаў на радзіму з замежжа многіх адрынутых вайной суайчыннікаў — на жаль, часам ужо пасля іхняй смерці, адводзячы ім куток у сваім музеі.

Насамрэч эмігранты-беларусы, якіх падзеі Другой сусветнай адарвалі ад дому, у сваёй масе не мелі віны перад Бацькаўшчынай. Атабарыўшыся на амерыканскай ці канадскай зямлі, яны трымаліся сваіх этнічных асяродкаў, мовы, культуры, працавалі і выяўлялі сябе здольнымі людзьмі. А што да дзейных тады — напрыклад, Янкі Запрудніка, Вітаўта Кіпеля ці хоць бы Васіля Мельяновіча, з якімі ён пазнаёміўся ў тую сваю вандроўку па ЗША, то іх грамадзянскі, навуковы і культурна-гістарычны досвед наогул мог прынесці Бацькаўшчыне багаты духоўны плён.

## Яго ордэн...

...Неўзабаве, аднак, развалілася Савецкая дзяржава, перастала існаваць БССР, і ці не дзіва: менавіта намаганнямі нацыянальна свядомай інтэлігенцыі і перш за ўсё Беларускага Народнага Фронту і паўстала незалежная Рэспубліка Беларусь. Тады да нас, на зямлю ўваскрэслай Бацькаўшчыны, на яе ўлонні рушылі суродзічы — землякі з замежжа. Можна ўявіць сабе той душэўны ўздым, які агарнуў спакутаваных па Радзіме людзей, што цягам дзесяцігоддзяў мроілі ўбачыць вольнай і гасціннай сваю краіну.

Праз год ці два прыехаў на пабыўку да нас і наш сябра — Міхась Белямук, бюст якога, выраблены з гіпсу на заказ А.Белага, ужо ўпрыгожваў залу Нацыянальнага навукова-асветніцкага цэнтра імя Ф.Скарыны.

Мне як каардынатару ініцыятывы "Інстытут нацыянальнай памяці" можна было заўсёды разлічваць на падтрымку Анатоля Белага і ягонага клуба "Спадчына" пры правядзенні розных грамадскіх акцый, прыкладам, у абарону беларускай мовы. Мы былі паплечнікамі ў поўным сэнсе гэтага адметнага беларускага слова, і я ганаруся гэтым. Гэты чалавек апантана і мэтанакіравана рабіў вялікую нацыянальную справу.

Улады ў Старых Дарогах яго не чапалі — "не заўважалі". Але аднойчы яны прывялі ў ягоную сядзібу-музей на экскурсію свой раённы гаспадарчы актыў... Вось дзе было здзіўленне: такога яны яшчэ не бачылі!

У апошнія гады свайго жыцця Анатоль разгарнуў спорую дзейнасць у сеціве (шырыня і размах — ад яго натуры), адкрыў адразу некалькі сайтаў клуба "Спадчына", на якіх прадстаўляў мастацкую і культурную спадчыну беларусаў.

Цікавай падавалася мне дзейнасць грамадскага Камітэта ўшанавання пад кіраўніцтвам А.Белага. Ён ганараваў беларускіх дзеячаў, у тым ліку сяброў клуба "Спадчына", памятнымі медалямі, граматамі, кубкамі, пярсцёнкамі... А найвышэйшай узнагародай быў ордэн **"Гонар Айчыны"**. Калі не памыляюся, гэты ордэн з рук Белага атрымалі ў свой час знаныя пісьменнікі Васіль Быкаў, Рыгор Барадулін, гісторыкі Язэп Юхо, Георгій Штыхаў, Анатоль Грыцкевіч.

## У спісе 100 найлепшых адукатараў свету

...Цяжкая хвароба скавала Анатоля Белага, гэтага нястомнага, гарачага, няўрымслівага чалавека. Дагарала свечка ягонага жыцця, калі сябры рупіліся над выданнем прыгожага каталога музейнай калекцыі Анатоля Белага пад назвай **"Раскрылі крылы музы"**. Акурат 4 лістапада 2011 года клуб "Спадчына" ладзіў у Палацы мастацтва прэзентацыю, на якую старшыня клуба ўжо не меў сіл паехаць. Сваё пранікнёнае слова пра заслугі Анатоля Яўхімавіча перад айчыннай культурай казалі мастак і паэт Р.Сітніца, скульптар М.Несцярэўскі, мастак А.Сіменка, дачка Святлана...

Я скончыў пісаць гэтыя радкі, калі прыйшла вестка: Кембрыджскі міжнародны адукацыйны цэнтр уключыў Анатоля Белага ў спіс 100 найлепшых адукатараў свету. Адукатараў? Так! Ён быў шчырым, актыўным і плённым адукатарам беларусаў у нацыянальнай культурнай і гістарычнай тэматыцы. І хоць яго самога паміж намі ўжо няма, застаўся на зямлі плён энергіі, сэрца, розуму гэтага самавітага творцы. Ён аддаў усяго сябе служэнню грамадству, народу, мовай якога карыстаўся хораша і ў смак, знаходзячы да кожнага выпадку трапную прымаўку, параўнанне, жартаўлівы альбо іранічны выраз. Ён актыўна, плённа, упарта працаваў на галоўную задачу беларусаў — не здраджваць самім сабе, збіраць і трымацца за свае каштоўнасці, свае карані. Заставацца аддаными сваёй зямлі і памяці продкаў. І таму сам будзе жыць у нашай памяці.

ДЗІВОСЫ

## *Азарэнне Сяргея Гайдукевіча?*

*Паперку, якую днямі даслаў у рэдакцыю "Народнай Волі" С.Гайдукевіч, можна было б выкінуць у сметніцу. Што звычайна стаіць за яго словамі — усім вядома.*

Але ж... На гэты раз у заяве Вышэйшага Савета і Цэнтральнага камітэта Ліберальна-дэмакратычнай партыі гучыць надзвычай важная праблема. *"Прыйшоў час звярнуцца да ўсіх і сказаць: галоўная складаючая суверынітэту любой дзяржавы і адзіная для усіх дзяржауная ідэалогія толькі адна — гэта развіцце і ўмацаванне роднай мовы"*. І далей: *"Неабходна тэрмінова прыняць закон, у якім выразна і ясна пастанавіць — калі служачы дзяржаўных органаў (Савет Міністраў, Адміністрацыя Прэзідэнта, Аблвыканкама, Гарвыканкама, Адміністрацыі раена і іншыя), ты павінен ведаць і умець карыстацца беларускай мовай"*. (Арфаграфія і стыль арыгінала захаваны. — **Рэд.**)

Нават не верыцца, што небезвядомы папуліст С.Гайдукевіч і яго паплечнікі сваім розумам дайшлі да высновы: мова — гэта *"фундамент, без якога не можа быць сапраўднага суверэнітэту"*. Сцяг ім у рукі, калі іх заява не блеф, а праява сур'ёзнай занепакоенасці лёсам роднага слова, лёсам Бацькаўшчыны.

Дарэчы, заканчваецца заява ліберал-дэмакратаў воклічам "Жыве Беларусь!!!". Так, з трыма клічнікамі.

**Мікалай ЛАЎРЫНОВІЧ.**

КВАТЭРНАЕ ПЫТАННЕ

# Да лета кошты на кватэры зноў вырастуць

*Сёння квадратны метр у панэльным доме эканом-класа каштуе 1100—1200 долараў.*

## Скачкі ў нікуды

За апошнія паўгода на сталічным рынку нерухомасці заўважаны ўсплёск — завяршаюцца многія аб'екты. А чым бліжэй да здачы аб'екта, тым даражэй квадратны метр. Логіка забудоўшчыкаў жалезная: на фінальным этапе будаўніцтва ўкладваць грошы бяспечна, бо вось ён — дом, а значыць, цана квадратнага метра расце.

Летам квадратны метр самага таннага камерцыйнага жылля каштаваў каля 850 долараў. Сёння ў жадаючых пабудаваць кватэру не будзе варыянту, таннейшага за 1000 долараў за квадратны метр.

Такім чынам, метр квадратны ў панэльным доме эканом-класа (вядомыя кватэры "тыповых спажывецкіх якасцяў") каштуе 1100—1200 долараў. У даражэйшых і больш прэстыжных каркасна-блочных ці маналітных дамах метр квадратны абыдзецца ў 1200—1900 долараў. Элітнае жыллё (каркасна-блочныя дамы, маналіт) дакладна не па кішэні большасці беларусаў — 2000—3000 долараў за квадратны метр.

Самае непрыемнае для мінчан — кошты на жыллё будуць расці. Хутчэй за ўсё рост спыніцца летам, а што будзе далей, эксперты будаўнічай сферы пакуль не прагназуюць.

## Не было б горш!

Гэтыя словы ў адзін голас паўтараюць мінскія забудоўшчыкі, калі размова заходзіць аб планах на наступны год. Бізнесмены не толькі не ўпэўнены ў эканамічнай стабільнасці заўтрашняга дня. Яны папросту баяцца, што хутка не будзе каму працаваць! У будаўнічай сферы адчуваецца сур'ёзны кадравы голад. Асабліва шмат праблем з высокакваліфікаванымі работнікамі. Зараз тыя ж мантажнікі ў Мінску — на вагу золата.

*"Кваліфікаваныя кадры ведаюць сабе цану,* — канстатаваў першы намеснік дырэктара ІП "Гербелинвест" **Валерый Фрэйтак**. — *Хутчэй за ўсё ў наступным годзе сітуацыя пагоршыцца"*.

Фірма спадара Фрэйтака на сабе адчула, што такое недахоп спецыялістаў. Пакуль з-за крызісу будоўля "Гербелинвест" прыпынілася, усе лепшыя будаўнікі з'ехалі ў Расію. Калі працэс узнавіўся, штат прыйшлося набіраць фактычна нанова.

На жаль, айчынныя забудоўшчыкі не ў стане прапанаваць спецыялістам заробкі, якія могуць канкурыраваць з расійскімі ці еўрапейскімі. Вось і едуць нашы за доўгім рублём.

**Марыя МАЛЕВІЧ.**



«ГОРЯЧИЕ ТОЧКИ»

## *Крик души дипломата*

*С неприкрытым упреком в адрес белорусов выступил на днях в Минске посол Израиля в Беларуси **Иосиф Шагал**.*

По его словам, сейчас в Израиле проживает около 150.000 выходцев из Беларуси. Поэтому, как объяснил посол, его зачастую удивляет равнодушие белорусских граждан и СМИ, а иногда и неприязнь к израильской стороне в конфликте с ХАМАС.

— В Израиле четверть населения — русскоязычные. И это не какие-то изолированные русскоязычные, это активные люди, которые путешествуют, работают, делают бизнес, отправляют своих детей и внуков в Минск, Москву. Мы очень связаны, мы — одно целое. Но почему, когда что-то случается, мы этого не чувствуем? Почему пресса пишет так, как будто палестинцы — это их родные братья и сестры? Где логика этого всего? Объясните!

Ну, если это только инерция — могу понять.

Не хочу разбрасываться словами, но неужели это все-таки антисемитизм? Но там же ваши люди, ваши друзья, с которыми вы в школе, в институте учились, детей вместе в детский садик водили. Почему вы верите в то, что они такие, как их описывают, почему вы думаете, что они фанатики, главная цель которых — убить палестинский народ?

Уже прошли историю с кровью христианских младенцев, теперь вот с палестинскими... Чего от нас хотят вообще?.. Что нам еще сделать, чтобы доказать, что мы — не верблюды, что мы — нормальный народ, который хочет нормально жить?

Так эмоционально оценил ситуацию с освещением конфликта в Газе белорусскими СМИ израильский дипломат.

**Виктория КАПУСТИНА.**

ВАС ИНТЕРЕСУЕТ...

# Борьба за место в эмиграции?

*Слушаю Радио Свобода, читаю независимые газеты и не могу понять, с чем связан конфликт Рады БНР и Андрея Санникова. Что они там, в эмиграции, не поделили? Ну не из-за подписания же какой-то бумажки, называемой Меморандумом, весь этот сыр-бор...*

**Петр Майстренко, г.Минск.**

"Что они там, в эмиграции, не поделили", видимо, лучше всего знают эксперты, которые сами находятся в эмиграции. В офисе "Солидарность с Беларусью" утверждают, что после отказа "Европейской Беларуси" Андрея Санникова присоединиться к "Вильнюсскому меморандуму", закрепляющему за Радой БНР статус координационного центра оппозиционных политических сил, участники этой гражданской кампании оказались в изолированном положении. Но не исключено, что сторонники Андрея Санникова сознательно стремятся к сохранению политической автономии с целью создания в эмиграции независимого политического центра.

13 ноября в интервью белорусской службе Радио Свобода бывший кандидат в президенты Беларуси Андрей Санников назвал подписанный 3 ноября 12 субъектами оппозиции меморандум "О мерах по обеспечению независимости Беларуси" непрофессиональным и угрожающим независимости Беларуси. По заявлению Санникова, представителя возглавляемой им гражданской кампании "Европейская Беларусь" не пригласили в Вильнюс на обсуждение данного документа. В итоге Санников отказался присоединиться к "Вильнюсскому меморандуму" (ряд оппозиционных субъектов подписали документ постфактум).

Полный текст меморандума был опубликован от имени Рады Белорусской Народной Республики. Подписавшие его лидеры оппозиции признают за Радой статус непартийного, надполитического органа "белорусской исторической государственности" и обязуются "координировать с Радой БНР работу по достижению совместных задач", а также "содействовать Раде в ее деятельности для окончательного исполнения своего исторического мандата".

Наиболее вероятно, что возникший между "Европейской Беларусью" и инициативой Рады БНР конфликт является более глубоким и не связан с организационными вопросами встречи в Вильнюсе или с профессионализмом авторов Меморандума. Поскольку подписанный Меморандум признает исключительную легитимность Рады БНР как органа белорусской власти до смены режима Лукашенко, то после отказа Санникова к нему присоединиться можно предположить, что его группа имеет свои представления по конфигурации правительства в эмиграции.

Правда, сама "Европейская Беларусь" пока не предложила альтернативной программы политических действий и ограничивается критикой коллег по оппозиции. При этом многие ее активисты уже находятся за пределами Беларуси. Кроме получившего политическое убежище в Великобритании Санникова, это, в частности, Дмитрий Бондаренко (доверенное лицо Санникова на минувших выборах), Александр Отрощенков (бывший пресс-секретарь Санникова на выборах), Наталья Радина (главный редактор сайта "Хартия-97"), Владимир Кобец (руководитель избирательного штаба Санникова на минувших выборах) и многие другие.

ЧУЛІ?

## *Беларусаў хочуць прывучыць к карткам*

*Нацбанк прапануе забараніць беларусам аплачваць тавары на суму больш за 10 мільёнаў рублёў наяўнымі грашыма.*

Нацбанк прапануе ўстанавіць такое патрабаванне заканадаўча. Зараз ідзе праца над дакументам, пасля падрыхтоўкі канчатковай рэдакцыі ён будзе ўнесены на разгляд Савета міністраў.

Прапануецца разлічвацца банкаўскай карткай, а не наяўнымі грашыма, калі ажыццяўляецца пакупка на суму, якая ў 100 і больш разоў перавышае памер базавай велічыні. Сёння гэта 10 мільёнаў рублёў.

Таксама плануецца выключыць магчымасць выплаты спажыўцу наяўных грашовых сродкаў у выпадку вяртання тавару (работы, паслугі), аплачанага безнаяўнымі грашовымі сродкамі ў суме, якая ў 100 і больш разоў перавышае памер базавай велічыні.

Намеснік старшыні праўлення Нацбанка Сяргей Дубкоў патлумачыў, што ўсё гэта прадпрымаецца з мэтай давесці долю безнаяўных разлікаў да 50%. На 1 лістапада 2012 г. паказчык па долі безнаяўнага грашовага абароту ў рознічным тавараабароце дасягаў толькі 12,8%.

